

Жыве Беларусь!

# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000 2 ЖНІЎНЯ СЕРАДА № 60 (9547)


## Саюз Беларусі і Расіі хутчэй стаў рэальнасцю

Ваш аўтарытэт і сусветная вядомасць дапамогуць у прасоўванні ідэй далейшай інтэграцыі Беларусі і Расіі. Такі пункт гледжання выказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 25 ліпеня, звяртаючыся да першага беларускага касманаўта Пятра Клімука. Нягледзячы на сваю занятасць на пасадзе кіраўніка Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў, Пётр Клімук займаецца і грамадскай дзейнасцю. Ён паведаміў кіраўніку беларускай дзяржавы, што ніколі не забывае аб сваіх каранях і аказвае пасільную дапамогу сваім землякам: у мінулым годзе, напрыклад, ён падарыў школе, у якой вучыўся, аўтобус. Аўтобус для роднай школы двойчы Герой Савецкага Саюза купіў за атрыманую ім Міжнародную прэмію. А ў красавіку гэтага года ён быў выбраны старшынёй грамадскай Палаты Саюза Беларусі і Расіі. Знаходзячыся на гэтай грамадскай пасадзе, я прыкладу ўсе свае сілы для таго, каб Саюз Беларусі і Расіі як мага хутчэй стаў рэальнасцю, — сказаў Пётр Клімук.

## Сёлетні ўраджай чакаецца вышэйшы, чым летась

Практычна ўсюды гаспадаркі рэспублікі пачалі масавую уборку збожжавых. Сёлета іх трэба будзе убраць з плошчы 2,4 мільёна гектараў. Пшаніца займае у гэтым аб'ёме 415 тысяч гектараў. Паводле ацэнкі спецыялістаў Мінсельгасхарча, валавы збор збожжавых на ўзроўні 5,5 мільёна тон дасць магчымасць выканаць аб'ёмы пастаўак у дзяржаўныя рэсурсы як харчовага, так і фуражнага зерня. Дарэчы, паводле папярэдніх даных, сёлетні ўраджай чакаецца амаль на два мільёны тон вышэйшы за мінулагодні. Да 26 ліпеня ў рэспубліцы ўбрана 180 тысяч гектараў збожжавых, што складае 7 працэнтаў ад агульнай плошчы, якую трэба ўбраць. Сярэдняя ўраджайнасць па рэспубліцы — 27 цэнтнераў з гектара. А самых высокіх паказчыкаў дабіліся ў Гродзенскай вобласці.

## На пасяджэнні райвыканкама

Чарговае пасяджэнне райвыканкама пачалося з абмеркавання вынікаў работы народнай гаспадаркі раёна за мінулае паўгоддзе.

Заслухана тлумачэнне дырэктара завода металавырабаў Шасцярнёва М. І. аб мерах па паляпшэнню спраў на прадпрыемстве.

У сельскай гаспадарцы зараз найважнейшая задача — убраць хлеб, назапасіць кармоў для грамадскага статку, рыхтавацца да сяўбы азімых.

На пасяджэнні райвыканкама за неаднаразовыя сур'ёзныя памылкі ў рабоце адхілены ад займаемай пасады начальнік раённага аддзела статыстыкі Марфель А. М.

Разгледжана практыка работы Кісялёва-Будскага сельсавета па выкананню Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні.

Абмеркаваны таксама пытанні аб рэгістрацыі прадпрымальнікаў, аб аплаце кампенсацыі рэабілітаваным грамадзянам, рабоце са зваротамі людзей і іншыя.

**Н. ЛЕНЧЫКАЎ.**

**Жніво-2000**

## Асаблівая ўвага — якасці

Уборка зерневых у раёне прадаўжаецца. Аб яе ходзе я пацікавілася у намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па механізацыі М. М. Замкавенкі.

— Першымі ў сёлетнюю уборачную выйшлі ў поле камбайны калгаса "Сасноўка", сасноўцы ж першымі распачалі і продаж збожжа дзяржаве.

На сённяшні дзень на Клімаўшчыне ўбіраюць зерневыя ўсе гаспадаркі. З 25 тысяч гектараў хлебнай нівы ўбрана і абмалочана ўжо 1809 га пры ўраджайнасці 19,1 ц/га. Прададзена дзяржаве на 31 ліпеня 827 тон хлеба сёлетняга ўраджаю. Лідэрамі тут з'яўляюцца племсаўгас "Высакоўскі" (186 т) і калгас "Сасноўка" (138 т), кіраўнікі — М. І. Скупяка і В. Р. Закардонскі. Актыўнасць у гэтай справе назіраецца таксама і з боку саўгаса "Малышкавічы", племзавода "Ціманава", эксперыментальнай базы "Раднянская".

Па шматгадовай традыцыі лідэрамі сярод камбайнераў з першых дзён уборкі ідуць В. А. Белаштэнтаў, І. А. Пархоменка, В. В. Бяляеў з калгаса "Сасноўка".

Для выканання ўсяго комплекса ўборачных работ у раёне маецца 147 зерняўборачных камбайнаў. Зусім нядаўна атрымалі дзевяць новых "Донаў". Чакаем яшчэ два камбайны КЗР-10 з "Гомсельмаша" і шэсць камбайнаў "Кейс-Ліда".

У бягучае жніво вельмі скрупулёзная ўвага надаецца якасці работы, скарачэнню страт пры уборцы зерневых. Камісіяй райсельгасхарчу прынята з усіх 119 адрамантаваных камбайнаў — 97, якія і дапушчаны да работы.

Прайшла сур'ёзны рамонт і ўся зернесушыльная гаспадарка раёна. Сіламі гаспадарак, адкрытага акцыянернага таварыства "Клімавіцкая ПМК "Сельспецмантаж" адноўлены і гатовы да работы практычна ўсе зернесушыльныя комплексы ў калгасах і саўгасах.

Ёсць надзея, што ўборку вырашчанага хлеба працаўнікі нашага раёна правядуць у тэрмін і з добрай якасцю.

**Запісала В. КВАРЦЮК.**

## Пара гарачая

У складаных кліматычных умовах даводзіцца ўбіраць сёлета вырашчаны ўраджай зерневых. У саўгасе "Высакоўскі" на жніво выйшлі чатыры "Доны" і 9 "Ніў".За мінулы тыдзень тут сабралі 423 тоны зерня азімага жыта. Асобныя ўчасткі даюць больш дваццаці цэнтнераў на круг. На камбінат хлебапрадуктаў адпраўлена 186 тон хлеба.

Людзі, занятыя на жніве, з адказнасцю адносяцца да важнейшай работы сёлета года. Лепшы вынік на камбайне "Дон-1500" у механізатара Івана Міхайлавіча Дабродзькіна, які намалаціў за мінулы тыдзень сотню тон жыта. Гэтак жа старанна працуе Уладзімір Іванавіч Жарыкаў. На "Нівах" — свае лідэры: Іван Іванавіч Сергіенка, Аляксандр Аляксандравіч Галіноўскі, Уладзімір Аляксандравіч Быкаў.

Гэтак жа аператыўна арганізавана адвозка збожжа з палеткаў на ток. Сярод лепшых вадзіцеляў у гаспадарцы назвалі Івана Аляксандравіча Камісарава, на рахунку якога 234 тоны перавезенага хлеба і Уладзіміра Фёдаравіча Шкураева — 142 тоны.

Адразу за камбайнамі вядзецца стагоўка саломы, узворванне глебы пад азімыя.

**Р. СЯРГЕЕНКА.**

Каб зернесушыльная гаспадарка працавала спраўна за ёй патрэбны паўсядзённы догляд.

На зернетаку ў Хатовіжы рабочыя пытанні вырашаюць галоўны аграном калгаса "Сасноўка" В. І. Кісялёў, машыністы М-819 М. М. Аляксеенка, Р. П. Зуеў, галоўны інжынер па ахове працы і тэхніцы бяспекі райсельгасхарчупраўлення У. П. Яновіч.

Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.



## Уборцы — усенародны характар

Менавіта так патрабуе арганізаваць справу на месцах Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

Пры гэтым сацыяльныя праблемы чалавека працы трэба імкнуцца вырашаць максімальна ўважліва.

Арганізавана выкарыстоўваць транспарт на перавозцы збожжа, эканоміць бензін і дызпаліва, кантраляваць цэны, не даваць спакою раскрадальнікам ураджаю — на гэтым сканцэнтраваў размову старшыня райвыканкама У. В. Канавалаў падчас планёркі ў панядзелак.

— На кожным зернетоку, у майстэрнях, ля адміністрацыйных будынкаў неабходна вывесіць інфармацыю аб перадавіках жніва, вымпелы ў гонар лепшых працаўнікоў, камбайнераў, вадзіцеляў, — усіх, хто добрасумленна змагаецца за хлеб.

Дарэчы, падобнае робіць у эксбазе "Раднянская", у іншых гаспадарках. Супрацоўнікі РАУС ужо затрымалі звыш дзесятка злодзеяў бульбы. Некаторыя трапляюць у рукі правасуддзя ў другі, а то і ў трэці раз.

Намечана стварыць службу па энергазберажэнню ў народнай гаспадарцы.

Ішла гаворка пра забеспячэнне палівам, рамонт школ, добраўпарадкаванне, выбары у беларускі парламент.

**М. МАЙСКІ.**

## Дзяржзаказ па продажы збожжа павінен быць выкананы

Дзяржаўны заказ па продажы збожжа краіне павінен быць выкананы на сто працэнтаў.

Такую задачу вызначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў ходзе рэспубліканскай селектарнай нарады па пытаннях уборкі ўраджаю і нарыхтоўкі кармоў. На думку Прэзідэнта, уборка збожжа і ёсць тая самая вялікая палітыка, аб якой гавораць апаненты.

## Сельгасарганізацыі атрымаюць нафтапрадукты

Прэзідэнт Рэспублікі Аляксандр Лукашэнка выдаў распараджэнне аб выдзяленні сельгасарганізацыям нафтапрадуктаў для забеспячэння уборкі ўраджаю 2000 года. У адпаведнасці з дакументам, Дзяржаўнаму камітэту па матэрыяльных рэзервах прадпісваецца адпусціць у ліпені-жніўні калгасам, саўгасам, сялянскім (фермерскім) гаспадаркам у выглядзе тавstriарнага крэдыту 20 тысяч тон дызельнага паліва і 10 тысяч тон аўтамабільнага бензіну з вяртаннем гэтых нафтапрадуктаў да 31 снежня 2000 года.

## Сацыяльна-эканамічнае становішча раёна ў студзені-чэрвені 2000 года

**Прамысловасць**

За першае паўгоддзе 2000 года прамысловымі прадпрыемствамі раёна выраблена прадукцыі ў бягучых цэнах на 7269,5 млн. руб., што больш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў супастаўных цэнах на 1,8%, у чэрвені менш на 0,26.

Істотны прырост вытворчасці атрымалі прадпрыемствы мукамольна-крупяной і камбікормавай (20,2%), мясамалочнай (2,3%) прамысловасці.

Па-ранейшаму не дасягнулі ўзроўню адпаведнага перыяду мінулага года харчовая прамысловасць (6,6%), прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, прадпрыемствы лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці (27,0%), машынабудаванне і металаапрацоўка (36,3%).

**Спажывецкія тавары**

Выпуск спажывецкіх тавараў склаў 21896,7 млн. руб. і знізіўся ў параўнанні з леташнім перыядам на 4,4%.

Харчовых тавараў выраблена больш на 1045,3 млн. руб., або на 28,8%. Значна знізіўся выпуск гарэлкі, гарэлачных вырабаў (14,7%), кандытарскіх вырабаў па хлебазаводу (8,0%).

Выпуск нехарчовых тавараў упаў на 30,7 %. Няма выпуску цвікоў будаўнічых, цэглы.

**Сельская гаспадарка**

Па стану на 10 ліпеня г. г. скошана сеяных і натуральных траў першым укосам 19750 гектараў (100%). Нарыхтавана 8682 тоны сена, што складае 44% да плана, закладзена сенажу 65% да плана. Усяго назапашана ў разліку на адну ўмоўную галаву 6,8 цэнтнера кармавых адзінак.

**Жывёлагадоўля**

У параўнанні з мінулым годам буйной рагатай жывёлы зменшылася на 1721 галаву, свіней — на 603, коней — на 70, птушкі — на 11326 галоў.

За 6 месяцаў раён знізіў рэалізацыю жывёлы і птушкі на ўбой на 262 тоны, або на 17% у параўнанні з леташнім перыядам. Валавыя прывагі буйной рагатай жывёлы ў параўнанні з мінулым годам павялічыліся на 8 тон. Сярэднесутачныя прывагі жывёлы ў параўнанні з мінулым годам вышэй па раёну на 23 грамы і склалі 301 грам.

Валавыя прывагі свіней у параўнанні з мінулым годам вышэй на 56 тон. Сярэднесутачныя прывагі свіней вышэй мінулагодняга на 25% і складаюць 430 грамаў.

Вытворчасць малака ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года менш на 3% і склала 8614 тон. Сярэдні надой малака ад каровы ніжэй мінулагодняга на 4% і склаў 1090 кг.

Нарыхтоўчымі арганізацыямі закуплена ва ўсіх катэгорыях гаспадарак 1097 тон жывёлы і птушкі (у жывой вазе), што на 8 тон (0,7%) менш, чым летась. Дзяржзакупкі малака павялічыліся на 205 тон (на 3%) і склалі 7785 тон.

(Працяг на 4-й стар.).

## Пытанні, якія трэба вырашаць тэрмінова

На адным з чарговых пасяджэнняў райвыканкама была прынята раённая праграма "Моладзь" на 2000-2003 гады. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з загадчыкам аддзела па справах моладзі райвыканкама В. А. Ларыёнавым, каб задаць яму некалькі пытанняў.

**— Скажыце, што гэта за праграма і для каго яна?**

— Сама праграма сістэматызуе мэты, асноўныя накірункі ў дзейнасці па пытаннях маладзёжнай палітыкі ў раёне. А выконваць яе будзем разам з гаспадаркамі, прадпрыемствамі і ўстановамі Клімаўшчыны. Першае, увага будзе звернута на паляпшэнне жыллёвых умоў маладых людзей, іх працаўладкаванне і прафесійную арыентацыю. Гэта, я лічу, галоўнае на сённяшні дзень.

**— Чаму так?**

— Глядзіце самі. Па прагнозах спецыялістаў праз якіх-небудзь пяць гадоў колькасць маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 30 гадоў складзе 36% ад усяго працаздольнага насельніцтва. Другімі словамі моладзі стане больш на 116 тысяч чалавек.

І нам трэба зацікавіць маладых людзей у плённай працы, дапамагчы ім у выбары прафесіі. Сёння моладзь складае палову ад агульнай колькасці беспрацоўных у краіне.

Таму вырашана стварыць у раёне цэнтр прафесійнай арыентацыі і сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі маладым людзям.

**Яшчэ адно вострае пытанне працаўладкавання маладых людзей у летні перыяд. Таму я звяртаюся да кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый раёна, каб тыя, у сваю чаргу, прадставілі ў аддзел па справах моладзі райвыканкама спісы маючыхся вакансій.**

Працаўладкаваннем маладых людзей будзе займацца і РК ГА БПСМ. Тут таксама створаны цэнтр занятасці моладзі. Курыруе гэтае пытанне другі сакратар РК ГА БПСМ Сяргей Паўлючэнкаў.

Звяртайцеся, калі ласка, за дапамогай?

**— Дзякуй.**

**Гутарыў Н. МІНЧАНКА.**

## Свет тваіх захапленняў

— такой тэматыцы прысвячалася чарговае пасяджэнне ў клубе "Незабыўныя сустрэчы", што працуе пры цэнтральнай бібліятэцы. За шкляначкай чаю члены клуба і госці вялі нетаропкую размову. І вось вядучыя Святлана Кавалёва і Ларыса Чарканава па чарзе пачалі прапаноўваць запрошаным на сустрэчу расказаць пра свае захапленні.

Ала Мікалаеўна Дашкевіч (выкладчык дзіцячай мастацкай школы) шые і вяжа адмыслова. Але макрамэ і вырабам з саломкі яна ўсё ж аддае перавагу. Шмат часу адымаюць гэтыя заняткі, асабліва саломка, толькі калі захапленне сапраўднае, то кожную хвіліначку скарыстоўваеш. Ала Мікалаеўна цікава можа расказаць пра ўсё, але яна таксама прынесла паказаць некаторыя свае работы.

Вязанне — старадаўні від рукадзелля. Тамара Мікалаеўна Саўкіна гэта майстэрства пераняла ад маці. Хатняе захапленне перарасло ў работу. Яна перадае сваё багатае ўменне дзецям у гуртках аддзела дзіцячай творчасці. Вывязаныя рэчы Тамары Мікалаеўны прыцягваюць увагу. Вышыўка па вязанню — прыгожа і нова. "Прыходзьце да мяне, усё, што ведаю, раскажу і пакажу" — звярнулася лагодная субяседніца да аўдыторыі.

Бабуля Ніна з вёскі Кавалёўка была найпершым настаўнікам для Надзеі Сіліверставай. Усім вельмі спадабаліся работы юнай дзяўчыны (вышыўка крыжам). Гэта цэлыя карціны! Праўда Надзея зараз вучыцца ў Віцебскім педуніверсітэце і не змагла прыехаць на сустрэчу, таму яе маці Антаніна Васільеўна расказвала, як стваравецца такі цуд.

Сваімі кулінарнымі прамудрасцямі падзялілася ахвотна Людміла Рыгораўна Сініцкая. Зараз, знаходзячыся на заслужаным адпачынку, яна больш часу можа ўдзяліць свайму любімаму занятку. Выпечку Людмілы Рыгораўны (сцвярджаюць яе былыя калегі па рабоце — бібліятэкары) ні з якімі іншымі не зблытаеш. Майстрыца на ўсе рукі — маці мужа — і нявестку навучыла ўсяму, за што Людміла Рыгораўна ўдзячна ёй праз усё жыццё.

Любіць займацца кулінарнай справай і бібліятэкар Валянціна Леанідаўна Мычко. Яна падзялілася вопытам выпечкі торта "Алёнушка", іншымі прысмакамі. Госці сустрэчы мелі магчымасць паласавацца яе пірагом. А бібліятэкар Святлана Кавалёва прапанавала пачаставацца салатамі з каляровай капусты і спаржавай фасолі. Сапраўды — смачна. Да таго ж, Святлана прадставіла сабраўшымся магчымасць палюбавацца цудоўнейшым зборам паштовых марак — яе любімым захапленнем. А збіраць іх яна пачала разам са сваім бацькам яшчэ ў дзяцінстве. У альбоме рэдкія экземпляры марак на розныя тэмы.

Затым сваімі кулінарнымі рэцэптамі дзяліліся супрацоўнік краязнаўчага музея Наталля Мікалаеўна Баньшэўская, былы дырэктар камбіната грамадскага харчавання Марыя Аляксееўна Карніенкава. Яны таксама слушныя, паколькі эканомныя і не патрабуюць шмат прадуктаў.

А вось у ветэрана педагагічнай працы Веры Сямёнаўны Хомчанка сваё захапленне — кветкі. Яна любіць і ўмее даглядаць за імі. Нездарма ж у снежні, у сцюжу і холад, у яе кватэры зацвіў сталетнік! І гэта дзякуючы цеплыні і ўвазе гаспадыні. Ветэран вайны і працы Фаіна Карпаўна Камкова ўспомніла, як яшчэ ў маладыя гады вучылася вышываць, вязаць карункі. Яна прадэманстравала прысутным свае вырабы. Прыгожа. Акрамя рукадзелля, Фаіна Карпаўна любіць спяваць — яна актыўная ўдзельніца раённага хору ветэранаў, якому нядаўна прысвоена званне "народнага". Яе песню падхапілі ўсе. Затым сваё артыстычнае майстэрства дэманстравалі былы работнік бібліятэкі Святлана Іванаўна Грышчанка, Вера Сямёнаўна Хомчанка — яны таксама ўдзельнікі народнага хору ветэранаў. Парадавала прысутных сваім выкананнем і добрым галасам загадчыца цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Антаніна Васільеўна Сіліверстава.

Словам, усім спадабалася цёплая, задушэўная размова за шклянкай гарачага чаю. Будзем чакаць новых сустрэч з цікавымі субяседнікамі.

**В. КВАРЦЮК, Р. СЯРГЕЕНКА.**

## Песні ля агню

У Магілёўскім раёне прайшоў абласны злёт удзельнікаў паходаў па месцах баявой славы, прысвечаны 55- годдзю Вялікай Перамогі.

У мерапрыемстве, якое працягвалася тры дні, прынялі ўдзел 27 каманд. Былі прадстаўнікі нашага раёна. Па выніках шматлікіх конкурсаў і эстафет клімаўчане занялі 12 агульнакамандное месца. Гэта значна лепей, чым мінулагоднее выступленне нашай каманды.

Па словах прадстаўніка нашай каманды Сяргея Быкава, было шмат цікавага і карыснага. Асабліва ўразілі конкурсы патрыятычнай песні і ваенізаваная эстафета.

Дарэчы, мерапрыемствы такога накірунку сталі традыцыйнымі на Магілёўшчыне. Прыемна, што нашы ўдзельнікі тут знаходзяцца не на апошніх месцах.

**Н. ВОЛЬНЫ.**

## Лічбы гавораць

За першы летні месяц у раёне нарадзіліся 23 чалавекі, у тым ліку,па гораду — 11. Так паведамілі нам супрацоўнікі аддзела ЗАГС райвыканкама. Больш за астатніх нарадзілася маленькіх беларусаў у Раднянскім сельскім Савеце.

У той жа час у раёне памерла 41 чалавек.

Аддзелам ЗАГС зафіксавана 14 шлюбаў і 3 разводы.

**Н. ВОЛЬНЫ.**

● Спорт

## Верым у ваш поспех

Гульні першай групы чэмпіяната вобласці па футболу прадаўжаюцца.

За апошні час зборная Клімавіч двойчы прайграла: дзвюм бабруйскім камандам, на іх жа полі. Лік — 4 : 0 і 5 : 2.

У суботу 15 ліпеня клімаўчане прымалі на сваім полі мацнейшую пакуль каманду — каманду з Першамайскага РАУС г. Бабруйска. Па набраных балах за прайшоўшыя гульні яна з'яўляецца лідэрам. 0 : 0 — так скончыўся першы тайм, і гульня, можна сказаць, ішла на роўных. "Хто ж адкрые лік?" — гадалі балельшчыкі. І вось на 51-й мінуце мяч уляцеў усё ж у нашы вароты. Праз некалькі хвілін — яшчэ адзін. Са зразумелымі пачуццямі пакідалі стадыён клімавіцкія аматары футболу ў той дзень...

Але на наступны, у нядзелю, іх было яшчэ больш, і падтрымку яны арганізавалі нашым рабятам добрую. Сапернікамі клімаўчан зноў былі бабруйчане — каманда "Белшына-2". Цікава праходзіла гульня ад пачатку да фінала. А вынік які! 3 : 0 — на карысць клімавіцкай зборнай. Аўтарамі галоў з'яўляюцца Дзіма Кошалеў, Алег Шалыгін і Сяргей Грыневіч.

**В. КВАРЦЮК.**

Спорт і турызм

## Бліскучая перамога

Ганаровага права прадстаўляць вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах па турызму ўдастоена была каманда клімавіцкага філіяла № 710 АСБ "Беларусбанк". У чэрвені на фінальных спаборніцтвах яна заняла другое месца сярод 18-ці філіялаў АСБ "Беларусбанк" вобласці. А змагацца давялося па такіх відах спорту, як крос, амрэслінг, пад'ём тулава, паласа перашкод, міні-футбол, пляжны валейбол.

Узначальваў каманду, як, дарэчы, і рыхтаваў яе да спаборніцтваў, вядучы спецыяліст службы бяспекі "Беларусбанка" Аляксандр Іванавіч Бандарэнка. "На рэспубліцы" клімаўчан (каманду у 12 чалавек) прадстаўляў сам дырэктар філіяла Міхаіл Міхайлавіч Савельеў.

І вось бліскучая ўдача! На другім галіновым турзлёце наша каманда, выступіўшы дружна, з'яднана, заняла ганаровае першае месца. Дыпломы былі таксама ўручаны за перамогу ў такіх відах спорту, як перацягванне каната, міні-футбол, пляжны валейбол, пераадоленне паласы перашкод, амрэслінг, бег (500 і 1000 метраў).

Віншаванне за спартыўнай перамогай даслалі ўжо ў адрас Клімавіцкага філіяла з абласнога Упраўлення АСБ "Беларусбанк".

**В. КВАРЦЮК.**

• Судьбы

## Слезой очищается душа



Пожалуй, редко кто у нас в городе, да и районе тоже, не знает эту жизнерадостную, общительную, обаятельную женщину. И относятся к ней с уважением не только люди ее возраста, но и подростки, люди старшего поколения. Примечательна она в первую очередь своим делом, которому предана вся без остатка. Возможно поэтому, любя свою работу, она любит всех, с кем приходится сталкиваться в процессе общения. И любовь эта взаимная.

Как важно в своё время правильно выбрать свою профессию. Потому что дело, которому ты служишь, принесет пользу людям и радость самому себе. Вот так получилось и у Надежды Васильевны Юренковой. Как ни складывалась у нее судьба, на каких бы должностях ни приходилось работать — все равно неразрывно она была связана с песней, с музыкой, с концертами, неся людям хорошее настроение. И вот так — двадцать пять лет своей творческой деятельности.

А начиналось все с учебы в Могилевском культпросветучилище имени Крупской. Закончила театральное отделение по специальности режиссер театрализованных представлений. Первое ее трудовое крещение состоялось в Бобруйске, в 1975 году, в день празднования 30- летия Победы, где она была ведущей большой концертной программы. Затем по семейным обстоятельствам ей пришлось переехать на родину, в г. Климовичи. Сначала была директором в Осмоловичском СДК, в то время там был прекрасный Дом культуры на 200 мест (кстати, таких Домов культуры в районе было порядка пяти единиц), затем РДК, одна из строительных организаций. Работая в обществе книголюбов, Надежда Васильевна создала агитпоезд "Книгу — на животноводческие фермы и комплексы".

До 1986 года Н. В. Юренкова работала в отделе культуры инструктором, заведующей автоклубом. А потом вся дальнейшая ее трудовая деятельность связана с сельскохозяйственным техникумом. Этим она обязана Ивану Андреевичу Борщеву, который в те годы работал там и пригласил Надежду Васильевну к сотрудничеству. Хору совхоза-техникума тогда уже было присвоено звание народного, и Юренкова вела у них программу вместе с И. Борщевым. Потом здесь создался студенческий клуб, куда и пригласили ее на работу.

— Я долго не соглашалась, поскольку больше люблю творческую работу, чем административную, — говорит Надежда. — Но в конце концов я согласилась. 26 апреля 1986 года я пришла, а уже к 9 мая создала большую праздничную концертную программу. Трудно я там привыкала, начинала все с нуля, было много разочарований, но экзамен я выдержала. Преобразила интерьер, оживила клуб, создала уют.

За 14 лет работы в техникуме всякое бывало. На первых порах, когда там работал Борщев, Иван Андреевич всегда поддерживал ее, помогал.

— По натуре он сам трудоголик, настоящий трудоголик, — говорит о нем Надежда Васильевна. — Я уважаю таких людей. Он никогда не чурался никакой работы. Я сама, приходя на работу, каждый день писала новые сценарии, всегда хотелось создать для людей что-то новое, живое, необычное, интересное.

Надо сказать, на ее пути встречалось много хороших людей. Надежда Юренкова в ряду своих коллег назвала Светлану Линник (многое у нее почерпнула), директора Каменецкого Дворца культуры Брестской области Раису Козик ( она не считалась ни со своим временем, ни со своими силами — все это по мне. Это мне нравилось), преподавателя Могилевского культпросветучилища Валентину Пилипчук, заведующую Тимоновским СДК Валентину Медведеву, с которыми тоже посчастливилось работать, и конечно же Лидию Мозолевскую, с которой трудится вместе (у нее природный талант к культуре, хорошие организаторские способности). Среди ее знаменитых знакомых и ее однокурсница Нина Ковалева — теперь она солистка Государственного хора, Светлана Сусетчик — солистка ансамбля "Беседа".

— Я горжусь, что работала и училась с такими людьми, — подытоживает Надежда.

Работа в культуре... Надежда Васильевна любит ее самозабвенно. Бывало, приходят к ней на репетицию студенты-первокурсники, тычутся, как слепые котята, не знают еще толком, как начать, как превратить задуманное в живое творчество. И как приятно потом видеть ей плоды своей работы, когда ребята к концу четвертого курса умеют прекрасно держаться на сцене, радовать зрителя.

— Я и сейчас всегда волнуюсь, глядя на их выступления, бывает от радостного волнения слезы набегают на глаза, — говорит она. — Жаль только, что не хватает средств, пользуемся в работе тем, что есть. Но главная наша отдача — это успех. А осталась работать в культуре те, кто поистине любит эту работу, люди по призванию.

В этом году Надежда Юренкова участвовала в 25-м концерте, посвященном Дню Великой Победы. 25 лет — это юбилей ее работы в культуре.

— Надо сказать, что концертов на моей жизни было очень много, но вот эти, ко Дню Победы, для меня самые трогательные, самые волнующие.

Спросите у Надежды Васильевны, если бы пришлось начинать все сначала, какой бы дорогой пошла, выбрала бы снова культуру? Она ответит утвердительно.

— Я так сильно вросла в эту профессию, что считаю ее не столько работой, сколько борьбой за создание высококультурного и образованного человека, — говорит она. — Хочется, чтобы жизнь наша во всех ее проявлениях была культурной. И тогда все мы и нас окружающие люди будут лучше, чище, благороднее.

В жизни много встречалось ей разных людей, но Надежда считает, что больше хороших. Может, везет на хороших людей? А ей говорят: какая ты, такие возле тебя и люди. Может и так.

Надежда Васильевна очень любит стихи Сергея Островского:

Живи красиво, вольно, широко,
Люби людей светло и простодушно,
Не унижай беспечностью свой труд,
Будь правдолюбом, гордым и суровым
И пусть тебя потомки помянут
Хорошей песней или добрым словом.

— Хочется всем и себе пожелать побольше оптимизма, благородства, порядочности, сострадания к людям и культуры во всем. И тогда мы выживем и победим, — так просто, искренне, без всякого фарса в интонации голоса сказала мне в завершение интервью Надежда Юренкова. В этих словах смысл ее жизни.

**Р. СЕРГЕЕНКО.**

**На снимке: Н. В. ЮРЕНКОВА.**
**Фото В. ОСМОЛОВСКОГО.**



# Зарніцы

Літаратурная старонка

**ІВАН ПЕРАГУД**

## За ўсіх, хто шчыруе

Я тост паднімаю:
Упрошваю Бога,
Каб адчыніў насцеж
У новы век дзверы.
Без выбухаў бомбаў,
Без ядзерных успышак,
Без яда праяваў —
За мір на планеце.

Я тост паднімаю
За край беларускі
Супольна з Расіяй —
За вечную дружбу,
І ў век 21-ы
Не збіцца б з дарогі,
Каб не наламаці нам
Зноў дроў без патрэбы.

Я тост паднімаю
За добрую песню,
За хлеб наш штодзённы,
За солі драбочак,
За добрых аратых,
За ўсіх, хто шчыруе
І працаю славіць
Матулю-Радзіму.

**ГАЛІНА ДАМІНІКАН,**
**вучаніца Ціманаўскай СШ.**

## Мой родны кут

Мне мілы наш край беларускі
Ў сваёй старадаўняй красе:
Штандарты, сцягі і абрусы —
Усё гэта дорага мне.

Бяру ў далоні пралескі
Зямлі беларускай сваёй.
Яны нібы сонца ў прадвесні
Зачаравалі сабой.

Гляджу на зямельку сваю я,
Не зможацца жыць без яе.
Калі я ў ад'ездзе — гарую,
Мой родны куток па табе.

Мне мілыя родныя хаты
І сонца прамень на сасне,
Купалле ды кубак гарбаты —
Усё гэта дорага мне.

**ВАСИЛИЙ ПОДОБЕД**

## "Кукушкины слезки"

В лесу исходил я
Тропинок немало,
Весной мне кукушка
Не раз куковала.
Коль веришь известной
Народной примете,
То жить мне осталось
Недолго на свете.
Но я то уж знаю —
Кукушка кукует,
Когда вдруг по детям
Своим затоскует.
Птенцов разбросала
В чужие гнездовья.
Теперь одиноко
Рыдает по-вдовьи.
О жизни беспечной
Кукушка мечтала
И птицей залетной
На родине стала.
Глядят на прохожих
Под каждой березкой
Цветки голубые —
Кукушкины слезки.



*Ёсць што ўспомніць ветэранам.*
*Свае вершы аб вайне чытае Аляксей Яўменавіч Захарэнка.*
*Фота В. Асмалоўскага.*

Встречи

## На крутизне

Тридцать лет Юрий Михайлович Коровинский отдал средней школе № 1, шесть из которых он трудился её директором. Педагог-физик, принципиальный и чуткий человек Юрий Михайлович и теперь, находясь на заслуженном отдыхе, без дела не остаётся. Его часто можно увидеть добирающимся в Красавичи, где он преподаёт сельским ребятам свой любимый предмет.

Мало кто, видимо, знает, что природа даровала этому незаурядному человеку ещё одну способность — видеть мир глазами поэта.

Есть на севере, в Архангельской области, город Котлас. А ещё есть там посёлок Лименда. Для Юрия Михайловича — это близкие, родные места, его юность, его любовь.

Вырос он в многодетной семье. Среди пятерых детей — самый старший.

Не обласканный горькой судьбою,
Жил я в пасынках тысячу лет.
Тяжким грузом за мной чередою
Шлейф тянулся безрадостных бед.

И не ведал я ласки отцовской,
И совета его в трудный час.
Приобрёл я характер борцовский,
Прогоняя все беды с глаз.

Оттого перед жизнью не трушу.
Несгибаемой волей горжусь.
Никому эту жизнь не нарушить,
Потому за неё не стыжусь.

Это стихи физика Ю. М. Коровинского. Вот ведь как бывает — и лирика не чужда учителю, погружённому казалось бы, в незыблемый мир строгих физических законов. Может, ещё и потому Коровинский состоялся, как один из лучших преподавателей-предметников!?

С двухлетнего возраста Юра жил с отчимом.

— Вырос я среди чудесной природы. Какие там у нас разливы, луга, аромат и благоуханье!

— Когда же вас потянуло к стихам? — интересуюсь я.

— В молодости, конечно. Наверное, это было всего лишь бумагомарательство.

Так критично отзывается о своих первых пробах пера Юрий Михайлович. Кто же в молодости не писал о любви, о которой бы всё вроде и сказано? Душа человеческая просит в юности светлых образов и горячее чувство, как хрустальная криница, влечёт вас к поэтическому слову.

Как же было Юрию Михайловичу не взяться за стихосложение, когда он, к примеру, учился в речном техникуме? Река — она всегда располагает к раздумию. Не забывается одинокая сосна, которую увидел однажды Юрий — гордую, стоящую непоколебимо на самой крутизне, у обрыва.

И пришли стихи о том, как сосна — живое, одушевлённое существо, борется с жестокой судьбой, а "её характер — крепче камня, звенит во мне тугой струной".

Некоторые из поэтических работ Юрия Коровинского увидели свет в котласской газете. Сейчас публикует их и "Родная ніва".

В Карпогорах, в Карпогорах,
Средь лесов и средь болот
Есть посёлок Шатогоры,
Где мой добрый друг живёт, —

написал он однажды, прочитав понравившиеся ему стихи незнакомой поэтессы, с которой потом познакомился.

Вообще Юрий Михайлович — человек разносторонний. Он и в художественным самодеятельности в своё время участвовал.

— А Тамаре Михайловне тоже, конечно, стихи посвящали?

— Нет, я ей песни пел! — улыбается Коровинский напоминанию о жене, с которой они в согласии живут несколько десятков лет.

В его творческом багаже — стихи о Северной Двине, прозаические заметки о жизни. В армии Юрий Михайлович служил шифровальщиком, успевая написать и в газету "Красная звезда".

Николай Пыхов, сослуживец, не зря агитировал друга поступать на философский факультет Московского

Университета, куда сам поступил: склонность к осмыслению жизни и человека в ней у Коровинского осталась до сих пор.

В конце концов стал он учителем.

Сломался красный карандаш,
Он много лет служил для нас.
Теперь мы пишем чёрным —
Печально и покорно.

Разве не так? Не бывает ведь судьбы человеческой однозначной и без зазубринок. И хочется пожелать Вам, уважаемый Юрий Михайлович, Вашими же строками:

Собирайте, словно розы
Вы Поэзии слова.
И пусть никакие шипы не прожгут вдохновенное сердце Вашей музы, гордо возвышающейся на крутизне.

**НИКОЛАЙ ГЛУЗДОВ.**

Эцюд

## Першы пацалунак

Вясеннімі майскімі днямі Івана праводзілі на службу ў войска. Да гэтага часу ён яшчэ, як кажуць, не абзавёўся дзяўчынай, бо быў сарамлівы і нават баяўся падыходзіць да іх. У арміі хлопцы часам расказвалі пра сваіх дзяўчат, якія пішуць ім пяшчотныя пісьмы. А некаторыя з іх з гонарам хваліліся сваімі "подзвігамі" ў адносінах да дзяўчат. Іван моўчкі слухаў і дзесьці крышачку зайздросціў тым, каго дома чакаюць сяброўкі.

За добрасумленную службу ён быў адзначаны камандаваннем часці самай дарагой для воіна ўзнагародай — водпускам з паездкай на радзіму. Якая радасць сустрэчы была з роднымі, блізкімі і сябрамі! Дзесяць дзён водпуску праляцелі нібы ў сне. Іван ніяк не мог нацешыцца роднымі краявідамі, надыхацца родным паветрам.

За гэтыя дні ён выпадкова пазнаёміўся з добрай і прыгожай дзяўчынай, якую называлі Ліда. Вярнуўшыся на месца сваёй службы, ён з нецярпеннем чакаў ад яе пісьмаў. І вось, нарэшце, прыйшоў доўгачаканы ліст. Завязалася перапіска. Іван атрымліваў пяшчотныя пісьмы Ліды, якія так дапамагалі яму ў службе. У пісьмах дамовіліся яны і аб сустрэчы ў гарадскім скверы, калі Іван прыедзе дадому пасля дэмабілізацыі.

З якім хваляваннем ішоў ён на гэту сустрэчу! А Ліда, на здзіўленне, ужо чакала яго. Убачыўшы Івана, яна падхапілася з лавачкі і нясмела пайшла насустрач. Павіталіся. Прыселі і пачалі размову. На вуліцы стаяла вясна, свяціла сонейка і весела шчабяталі птушкі.

Нагаварыўшыся ўдосталь, яны вырашылі з'ездзіць да Ліды ў вёску, якая прытулілася да лесу. Прыехаўшы, яны адразу накіраваліся да яго. Цудоўны пах ландыша і хвоі проста дурманіў. Ліда паказвала Івану свае любімыя мясціны, дзе яна збірала грыбы і ягады, а то і проста адпачывала на ўлонні прыроды.

Не заўважылі яны, як на небе з'явілася хмара і нечакана сыпануў цёплы дожджык. Схаваўшыся пад ялінай, юнак з дзяўчынай аказаліся так блізка адзін ад аднаго. Блакітныя вочы Ліды, у якіх свяцілася пяшчота, былі зусім побач. Івану так захацелася пацалаваць дзяўчыну. Але ніяк не мог адважыцца на гэта. "Вось зараз далічу да дзесяці і пацалую", — думаў ён. І лічыў — раз, два, тры... дзесяць — і ўсё роўна не мог адважыцца. У грудзях моцна тухкала сэрца. Так лічыў ён некалькі разоў, магчыма і да тысячы. Нарэшце, сабраўшы ў сябе ўсю сілу волі і рашучасць, Іван нясмела і няўмела пацалаваў Ліду. Засаромеўшыся, яны моўчкі стаялі яшчэ нікаторы час.

Закончыўся дождж. Зноў заззяла цёплае сонейка, абудзіўся прыціхлы лес. Наскрозь прамоклыя, але радасныя і шчаслівыя, Іван і Ліда, узяўшыся за рукі, весела пакрочылі да вёскі.

**М. СТАЛЬМАКОЎ.**

**ИВАН ПЕХТЕРЕВ**

## Одноклассникам

Мои друзья любимые по классу,
С кем я провел прекрасных десять лет,
Живых с надеждой вспоминаю вас я
И с болью тех, кого меж нами нет.
Неужто нет? Они ушли в расцвете
Туда, где царство беспробудных снов,
Бурдилов Петя, Лавринович Петя,
Козлова Маша, Вова Ботвинков.
А самый первый Якушев Василий
Открыл утратам невозвратным счет.
И Миша Селезнев лежит в могиле,
А жизнь рекою вечности течет.
Ушел и Леоненко Николай
В таинственный за облаками край.
И нашей светлой школы нет уж боле,
Сто лет она стояла на земле.
Не знаю я, по чьей жестокой воле
Лежит теперь в руинах и золе.
Но слышу я калитки школьной скрипы,
Опять весна пришла в заглохший сад.
Опять шумят листвою свежей липы,
Посаженные много лет назад.
Вы помните весну, когда из леса
Мы принесли их маленьких сюда?
Нет, никакая времени завеса
Не скроет нашу юность никогда —
И липы все яснее с каждым разом
Мне открывают таинство, друзья, —
Ведь это мы стоим всем нашим классом,
И нас разлуке одолеть нельзя.
1992-1999 г.

**БОРИС ВОРОНИН**

## Пушкин в Михайловском

Рвал ветер кровлю, рьяно снег кружил,
День угасал, в углах сгущались тени,
Поэт перо в сторонку отложил,
Прислушиваясь к голосу метели.

— Не потревожу, Саша, я тебя, —
И няня дверью скрипнула легонько.
— Не спится, буря все ревет ревмя,
Я посижу здесь у свечи тихонько.

Все пишешь, пишешь, сочинитель мой,
Вон пальцы, как у мальчика, в чернилах,
Не ужинаешь, стал совсем худой,
Я щей сейчас налью тебе, ленивых.

Пост нынче. — Ладно, няня, не ворчи,
А хочешь удовольствие мне сделать,
Так лучше поищи свои ключи
Да кружку кваса принеси отведать.

Квас у тебя отменный, хоть куда,
Его б не с горя пить, с друзьями в радость;
Никто не едет только к нам сюда,
Одна лишь ты со мною и осталась.

Об этом у меня вещица есть.
В ней помянул твои я песни, речи.
Так что сочти труды мои за честь
И оцени, подружка, "Зимний вечер".

## Сведения о выполнении задания по закупу телят у населения колхозами и совхозами района в январе-июне 2000 года (голов)

| Наименование хозяйств | Задание по закупу | Фактич. закуплено |
|---|---|---|
| **Колхозы** | | |
| "Рабочий" | 76 | 105 |
| "Галичский" | 52 | 58 |
| "Красное знамя" | 28 | 37 |
| "Новая жизнь" | 46 | 29 |
| "Герой труда" | 27 | 31 |
| им.Янки Купалы | 57 | 17 |
| "Сосновка" | 58 | 31 |
| **Совхозы:** | | |
| "Звенчатский" | 56 | 55 |
| "Тимоново" | 75 | 42 |
| "Высоковский" | 66 | 30 |
| "Милославичский" | 95 | 175 |
| "Осмоловичи" | 35 | 7 |
| "Макеевичи" | 48 | 91 |
| "Роднянская" | 76 | 149 |
| Птицефабрика | 44 | 48 |
| П/х ЛВЗ | 48 | 185 |
| **Итого по району:** | **930** | **1143** |

## К сведению покупателей!

Уважаемые граждане! В настоящее время участились случаи продажи на рынке недоброкачественных пищевых продуктов растительного и животного происхождения, в частности, дикорастущих и домашних ягод, грибов, молока и молочных продуктов, сала соленого и других продуктов.

В целях Вашей безопасности при покупке продуктов **требуйте от продавца удостоверения о качестве** на данный вид продукта.

Только при выполнении этого несложного правила можно избежать заболеваний и отравлений как себя, так и своих родных и близких.

**Ветслужба рынка.**

**В связи с проведением акционирования Климовичского комбината хлебопродуктов, пенсионерам, ушедшим на пенсию с комбината и бывшего ХПУ, желающим приобрести акции, необходимо зарегистрироваться в отделе кадров комбината до 10. 08. 2000 г.**

## Молодежный центр "Юность"

предлагает путевки в Дом отдыха "Нарочь" на 12 дней. С 1, 14 и 28 августа.

Цена в 2—3-местных номерах от 62 до 65 тысяч рублей.

Обращаться в РК ОО БПСМ или по тел. 2-41-59.

## УТП "Роднянский коопторг"

на постоянную работу срочно требуются продавцы магазинов д. Павловичи, д. Стайки, д. Артемовка.

Обращаться по телефонам: 2-19-34 (директор), 2-19-84 (бухгалтерия).

## Продается

корова 4-х отелов. Обращаться по адресу: ул. Партизанская, д. 17.

## Продается

деревянный дом с постройками 60 м кв., отопление паровое, приусадебный участок по адресу: г. Климовичи, ул. Герцена, 73.

# Сацыяльна-эканамічнае становішча раёна ў студзені-чэрвені 2000 года

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

У гаспадарках насельніцтва закупкі жывёлы ўзраслі ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 111 тон ( у 4 разы), малака — на 459 тон (39%).

Птушкафабрыкай прададзена 7490 тыс. шт. яек, што на 3642 тыс. шт. менш такога ж перыяду летась.

**Капітальнае будаўніцтва**

На развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы раёна па ўлічваемаму колу прадпрыемстваў за лік усіх крыніц фінансавання выкарыстана 700,0 млн. руб., у тым ліку будаўніча-мантажных работы выканаты на 618,1 млн. руб.

За 6 месяцаў уведзена 50 жылых домікаў агульнай плошчай 4553 кв. м.

**Пазадная дзейнасць**

Будаўнічымі і рамонтна-будаўнічымі арганізацыямі ўсіх форм уласнасці выканана падрадных работ асабістымі сіламі на 562,2 млн. руб., што ў супастаўвімых цэнах на 21,3% менш мінулагодняга. Капітальны і бягучы рамонт у агульным аб'ёме падрадных работ займае 16,7%.

**Знешнеэканамічныя сувязі**

За студзень-май 2000 года знешнегандлёвы абарот раёна з краінамі бліжняга і дальняга замежжа склаўся ў аб'ёме 4507,4 тыс. долараў ЗША. Экспарт склаў 889,1 тыс. долараў, з іх 39% — па бартэру, імпарт — 3618,5 тыс. долараў, з іх 6% — па бартэру.

**Фінансы**

У студзені-маі 2000 года прадпрыемствамі і арганізацыямі Клімавіцкага раёна атрымана 470,7 млн. руб. страт, 624,8 млн. руб. якіх давядзіцца на прамысловасць. Сельская гаспадарка спрацавала прыбыткова, прыбытак склаў 139,6 млн. руб.

Па стану на 1 чэрвеня 2000 года ў раёне было 16 стратных прадпрыемстваў, арганізацый, або 35,6% ад улікавай колькасці. Сума страт склала 638,1 млн. руб.

**Спажывецкі рынак**

Рознічны тавараабарот, уключаючы грамадскае харчаванне, за 6 месяцаў склаў 2976,4 млн. руб. Платных паслуг насельніцтву аказана на 158841,4 тыс. руб., у супастаўвімых цэнах гэта — 97,7%, да студзеня-чэрвеня 1999 года. Паслуг бытавога характару насельніцтва атрымала 35756,5 тыс. руб. і 102,2% да аналагічнага перыяду мінулага года.

**Узровень жыцця і даходы насельніцтва**

Сярэднемесячная заработная плата работнікаў, уключаючы матэрыяльную дапамогу і сацыяльна-працоўныя льготы ў студзені-маі г. г. склала 30697 руб. Нізкая заработная плата за даны перыяд склалася на камбінаце будматэрыялаў — 9900 руб., камбінаце бытавога абслугоўвання — 11147 руб., у калгасах — 19023 руб.

Найбольш высокааплочваемымі былі работнікі раёна газазабеспячэння — 77683 руб., аграпрамбанка — 92682 руб., Магілёўэнерга — 67896 руб.

**Занятасць насельніцтва**

Афіцыйны статус беспрацоўнага па стану на 1 чэрвеня г. г. мелі 329 чалавек. Сярод іх — 55% жанчын. Ва ўзроставай структуры моладзь да 29 год складае 43%. Каля 27% беспрацоўных спецыялісты з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй.

Дапамогу па беспрацоўю на канец мая атрымалі 129 чалавек (39,2%). Сярэдні размер дапамогі — 3481 руб.

**Дэмаграфічная сітуацыя**

За студзень-май г. г. у раёне нарадзілася 122 дзіцяці, што на 26 дзяцей менш, чым за даны перыяд летась. Памерла — 273 чалавекі, з іх 53 чалавекі ў працаздольным узросце.

За студзень-май у раёне зарэгістравана 39 шлюбаў і 56 разводаў супраць 79 і 52 летась.

**Па матэрыялах раённага аддзела статыстыкі.**

# Вниманию руководителей предприятий, организаций и учреждений города

Постановлением Совета Министров Республики Беларусь № 1680 от 28. 10.1999 года утверждено Положение о порядке выдачи удостоверения многодетной семьи.

В соответствии со статьей 62 Кодекса Республики Беларусь о браке и семье многодетной является семья, в которой на иждивении и воспитании находятся трое и более детей.

Семья приобретает статус многодетной при рождении третьего ребенка и при наличии в живых остальных детей (в том числе усыновленных и находящихся под опекой и попечительством) в возрасте до 18 лет.

Статус многодетной семьи подтверждается удостоверением, которое выдается местными исполнительными и распорядительными органами.

Для получения удостоверения многодетной семьи (далее удостоверение) родители предоставляют в местные исполнительные и распорядительные органы заявление, к которому прилагаются следующие документы:

справка о составе семьи;

копии свидетельств о рождении детей;

справки из школы или другого учебного заведения.

Решение о выдаче удостоверения принимается местными исполнительными и распорядительными органами после рассмотрения представленных документов, а также материалов, характеризующих отношение родителей к воспитанию и содержанию детей, характер поведения детей, их отношение к учебе и другое, то есть социальный паспорт семьи. Социальный паспорт семьи составляется соответствующими подразделениями местных исполнительных и распорядительных органов.

Удостоверение выдается родителям, которые воспитывают детей надлежащим образом, обеспечивают их физическое, нравственное, духовное здоровье и полноценное развитие.

Не выдается удостоверение при ненадлежащем выполнении родителями (одного из них) обязанностей по воспитанию детей, в которой родители допускают по отношению к детям пренебрежительное, жестокое, грубое, унижающее их человеческое достоинство обращение, ведут асоциальный образ жизни, а также в том случае, если дети находятся в детском учреждении на государственном обеспечении (полном и неполном). Решение об отказе в выдаче удостоверения принимается местным исполнительным и распорядительным органом.

**Социальный паспорт семьи**

Адрес: населенный пункт, улица, дом, телефон

Ф. И. О. отца, дата рождения

Ф. И. О. матери, дата рождения

Имена детей, даты рождения

Категория многодетной семьи: полная семья; неполная семья:

а) воспитывает одна мать

б) воспитывает один отец

в) воспитывает бабушка, дедушка или кто-то из родственников

семья, воспитывающая ребенка-инвалида

семья и детьми, находящимися под опекой, попечительством

Образование отца

Образование матери

Место работы и должность отца

Место работы и должность матери

Трудовой стаж отца

Трудовой стаж матери

Где учатся (работают) дети. Есть ли в семье подростки до 18 лет, которые не работают и не учатся

Доход семьи

Наличие приусадебного участка

Наличие подсобного хозяйства

Жилищные условия (нуждается в жилье или нет, ветхое, требуется капитальный ремонт, частичный ремонт, переоборудование, расширение жилплощади)

Характеристика бытовых и материальных условий в семье (относится ли семья к категории малоимущих)

Состояние здоровья членов семьи (взрослые инвалиды, дети-инвалиды, хронические заболевания)

Отношение родителей к воспитанию детей

Характер поведения детей, их отношение к учебе

Основные проблемы семьи.

# Госці медвыцвярэзніка

**З 17 па 25 ліпеня г. г. былі затрыманы ў нецвярозым стане і змешчаны ў медвыцвярэзнік:**

Судзянкоў Віталь Мікалаевіч, 1982 г. н., в. Малышкавічы, не працуе.

Купцоў Вячаслаў Вячаслававіч, 1978 г. н., в. Сабалёўка, рабочы птушкафабрыкі.

Курэпін Сяргей Уладзіміравіч, 1967 г. н., в. Судзілы, рабочы эксперыментальнай базы "Раднянская".

Жарыкаў Аляксандр Іванавіч, 1956 г. н., вул. Герцана, 39, рабочы КБА.

Фралоў Аляксандр Дзмітрыевіч, 1956 г. н., вул. 50 год СССР,6/12, рабочы падсобнай гаспадаркі ЛГЗ.

Маланенка Віктар Мікалаевіч, 1956 г. н., в. Сямёнаўка, рабочы эксперыментальнай базы "Раднянская".

Капралёў Андрэй Васільевіч, 1977 г. н., Крычаўскі раён, в. Луты, не працуе.

Бутырын Сяргей Мікалаевіч, 1970 г. н., в. Ціманава, цэсляр ПМК-9.

Меранкоў Юрый Аляксеевіч, 1966 г. н., г. Крычаў, пр-кт Камсамольскі, 16/64, не працуе.

Коршунаў Пётр Андрэевіч, 1974 г. н., вул. Герцана, 27/13, рабочы РАА.

Андрэенка Віктар Дзмітрыевіч, 1965 г. н., вул. Бірузова, 23, не працуе.

Цітоў Аляксандр Аляксандравіч, 1963 г. н., в. Ціманава, вул. Савецкая, 15/6, не працуе.

Федарэнка Мікалай Іванавіч, 1953 г. н., вул. Кірава, 7/11, рабочы РБУ.

Шыкін Мікалай Уладзіміравіч, 1979 г. н., вул. Паўлаўская, 13/1, не працуе.

Фядчун Сяргей Уладзіміравіч, 1979 г. н., вул. Камуністычная, 15/60, стораж ЗМІ.

Васільеў Аляксандр Васільевіч, 1977 г. н., вул. Будаўнічая, 1/7.

Дземянчук Юрый Андрэевіч, 1952 г. н., вул. Кірава, 8/15, трактарыст райаграпрамтэхснаба.

Лябедзік Аляксандр Васільевіч, 1954 г. н., в. Ціманава, вул. Паўночная, 5/10, цэсляр ПМК-9.

Стальмакоў Аляксандр Леанідавіч, 1974 г. н., в. Нікалаеўка, не працуе.

Новікаў Уладзімір Уладзіміравіч, 1953 г. н., вул. Дзяржынскага, 36, не працуе.

Жывадроў Аляксандр Іванавіч, 1957 г. н., зав. Савецкі, 9, вартаўнік ПМК аблаграпрама.

Судзілоўскі Валерый Дзмітрыевіч, 1951 г. н., вул. Камуністычная, 17/1, інвалід 2 групы.

Сініцкі Мікалай Леанідавіч, вул. Леніна, 111/68, не працуе.

Асмалоўскі Міхаіл Аляксандравіч, 1952 г. н., вул. Кірава, 59/4, не працуе.

Шылава Галіна Міхайлаўна, вул. Кірава, 59/23, прыбіральшчыца камбіната грамадскага харчавання.

Кавалёва Валянціна Іванаўна, 1952 г. н., вул. Гагарына, 33, дворнік ІСЭУ.

Нявінскі Анатоль Віктаравіч, 1951 г. н., вул. Кірава, 51/2, вадзіцель ПМК-88.

Цімошчанка Аляксандр Уладзіміравіч, 1956 г. н., вул. 50 год СССР, 26/34, трактарыст ПМК-88.

Ішуцін Анатоль Віктаравіч, зав. Рэвалюцыйны, 11/15, брыгадзір ПМК-256.

Шлынаў Станіслаў Іванавіч, 1955 г. н., вул. Кірава, 7/29, не працуе.

Глазко Віктар Сяргеевіч, 1980 г. н., вул. Будаўнічая, 5/40, трактарыст сельгастэхнікума.

Саковіч Яўген Алегавіч, вул. Каралёва, 7/3, не працуе.

Келбусаў Сяргей Мікалаевіч, 1976 г. н., в. Лобжа, даглядчык жывёлы калгаса імя Янкі Купалы.

Радзькоў Андрэй Леанідавіч, 1971 г. н., вул. Будаўнічая, 3/17, не працуе.

Петрачэнка Уладзімір Аляксандравіч, 1972 г. н., в. Малышкавічы, не працуе.

Ермаловіч Уладзімір Сцяпанавіч, 1938 г. н., г. Мінск, вул. Калініна, 35/2, пенсіянер.


**Намеснік галоўнага рэдактара Мікола ГЛУЗДОЎ**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.





**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 60. Тыраж 1870 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 1. 8. 2000 г.**